# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 40 (658) ГОД XIII 6 КАСТРЫЧНІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### АБ КАЛЕНДАРЫ НА 1969 ГОД

Старшыня рэдакцыйнай калегіі «Беларускага календара на 1969 год» Аляксей Казёл паінфармаваў нас, што закончылася праца над падборкай матэрыялаў да календара і што паступілі яны ў друкарню.

Гэта ўжо трынаццаты «Беларускі каляндар», які выдае Беларускае таварыства ў Народнай Польшчы. Аб'ём трынаццатага выдання «Беларускага календара 1969» прадбачваецца на 300 старонак.

Што агульна характэрнае новаму календару? Перш за ўсё той факт, што выходзіць ён на 25 гадавіну вызвалення беластоцкіх зямель ад нямецкіх захопнікаў. Аўтары, якія выступаюць у календары, стараюцца паказаць дасягненні Беластоцкай зямлі на працягу чвэрць стагоддзя. Паасобныя матэрыялы багата ілюстраваны здымкамі.

Змест календара будзе складацца з дзевяці асноўных частак. Першая — гэта ўступная частка, другая — каляндар на 1969 год. Трэцяя частка іменна датычыць 25 гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі. У трэцяй частцы знойдзе чытач артыкул **Г. Маецкага** — «Станаўленне народнай улады на Беласточчыне», **У. Міхалюка,** намесніка старшыні прэзідыума ВРН — «Дасягненні сельскай гаспадаркі Беласточчыны», **Л. Пэрка** — старшыні прэзідыума ПРН у Бельску — «Дасягненні Бельскага павета за перыяд народнай улады. Аб Гайнаўцы ў 25-годдзе Народнай Польшчы піша **К. Ляшчынскі.** Аб беларускіх ліцэях у Гайнаўцы і Бельску пішуць **В. Сакоўскі** і **М. Гайдук. А. Барвіюк** піша аб Беластоцкай ВСІнж. і аб зменах у размяшчэнні прамысловасці Беласточчыны ў 1946—1960 т.г. У трэцяй частцы змешчаны таксама ўспаміны палкоўніка **І. Анаціка** — «Па дарогах вайны», і шмат іншых матэрыялаў.

Чацвёрты раздзел календара прысвечаны 50-годдзю Беларускай ССР. Тут пішуць аб утварэнні БССР **Н. Каменская,** аб эканоміцы Савецкай Беларусі за 50 год — **У. Навіцкі** і аб росквіце сацыялістычнай культуры за гады савецкай улады **Р. Мачулін.**

«Насустрач VI з'езду» — гэта раздзел, які поўнасцю датычыць дзейнасці і дасягненняў БГКТ. Забіраюць тут голас: старшыня Прэзідыума ГП **В. Склубоўскі,** сакратар — **У. Юзвюк** і галоўны рэдактар «Нівы» **Г. Валкавыцкі.** Аб працы аддзелаў БГКТ: у Гайнаўцы даведаемся з артыкула **А. Іванюка,** а ў Бельску — **У. Раеўскага.** Цікавае падсумаванне 10-гадовай дзейнасці літаб'яднання «Белавежа» дае яго старшыня **А. Баршчэўскі.**

У шостай частцы ў асноўным ёсць два артыкулы. Адзін **Е. Альшэўскага** датычыць Таварыства прыяцеляў Белавежы, а другі **Я. Петрашкевіча,** генеральнага сакратара Літоўскага грамадска - культурнага таварыства, аб дзейнасці гэтага ж брацкага таварыства.

Сёмы раздзел прысвечаны гаспадарчым парадам, а восьмы — этнаграфічным справам. У дзевятым раздзеле змешчаны **«Гутаркі па гісторыі Беларусі» — М. Гайдука і 44 песні для дзяцей на словы В. Шведа з музыкай Э. Гойліка.** Гэтае апошняе перш за ўсё будзе вельмі карысным для школ, дзе моладзь вывучае беларускую мову.

Агульна кажучы, « Каляндар 1969» прадбачваецца вельмі багатым і цікавым.

(АК)



Малацьба. Фота: Янка Цялушэцкі

## ЛЮДЗІ і ЧЫНЫ

## УСЕ і ТРАЇХ

Усё пачалося ад сходу бацькоўскага камітэта пры пачатковай школе ў **Чэхах Арлянскіх,** якога членам між іншымі з'яўляецца **Аляксей Чыквін,** зараз таксама сакратар партыйнай арганізацыі.

— Калі не пачнем будаваць грамадскім чынам школьнага будынка, застанецца ў нас толькі чатырохкласная школа, а нашыя дзеці трэба будзе пасылаць у іншыя вёскі, — заявіў нехта з кампетэнтных на сходзе.

Для паяснення трэба дадаць, што зараз будынак школы тут вельмі маленькі і наймаюцца аж чатыры прыватныя памяшканні. На ўспомненым пасяджэнні рашэнне было адназначнае: запрапанаваць жыхарам пабудову грамадскім чынам школы. У нядзелю адбыўся агульны сход. Прапанова была падтрымана энтузіястычна. Хтосьці з гаспадароў бясплатна пераказаў частку свайго поля на школьны пляц. Паклікана камітэт. Людзі выйшлі са сходу і адразу ж пачалі звозіць гравій і каменне. Апрача фізічнага заангажавання людзі скláліся па 200 злотых, а потым яшчэ дадалі па 100.

Калі была гатова дакументацыя, людзі прыняліся за пабудову фундамента. Быў ён выкананы на працягу двух нядзель, таму што большасць чынавых прац выконвалася ў вольныя дні. Фундаменты зрабілі ў 1966 годзе, а ў 1967 годзе быў гатовы зруб. Да зруба, і ўключна з ім, работа палілася ў руках мясцовых людзей. Адны звозілі жужаль з Гайнаўкі і Чаромухі, іншыя таптáлі, каб як мага танней можна было яго купіць. Але пры выконванні пустакаў зноў працавалі ўсе. Зрабілі больш 3 тысяч пустакаў, назвозілі цэглы, нанялі майстроў-фахоўцаў. Так паўстаў зруб.

Але аб гэтым лёгка толькі пісаць. Пабудаваць такі будынак (4 школьныя памяшканні, настаўніцкая, канцылярыя, кухня і калідор) людзям, якія маюць свае гаспадаркі, справа надта складаная. Безумоўна ў Чэхах Арлянскіх працавалі самааддана амаль усе, але неабходным было б апрача ўспомненага А. Чыквіна вылучыць старшыню камітэта пабудовы школы **Васіля Васілюка с. Серафіма** і солтыса **Васіля Андрасюка.** Таму, што тэтыя людзі ўваходзяць у камітэт, і жывуць блізка будовы, ім даставалася найбольш. А і яны самі не лічыліся ні з чым. Васілюк, — расказвалі мне, — мусіў абтаптаць і аб'ездзіць не толькі павет, але і ваяводства, часцей за ўсё за свае грошы. Солтыс Андрасюк, міма што не мае дзяцей у школьным узросце, каб не перагаварвацца з некаторымі людзьмі часта сваёй фурманкай давозіў патрэбныя рэчы. Чыквін нават ноччу выгружаў самаход з бетоннымі бэлькамі давозячы свае ўласныя дылі, каб іх выгрузіць. Як было ўспомнена, заангажаванне ў чын не роўнае ва ўсіх.

(Працяг на стар. 5)



Солтыс Васіль Андрасюк.

## ПАРТЫЯ і Я

# НАША ІДЭАЛОГІЯ – САЦЫЯЛІЗМ

Моладзь вёскі перад з'ездам партыі — гэта тэма нашай размовы з намеснікам старшыні Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку **Станіславам Какарэкам.**

Пачынаем шырокае навучанне ў гуртках ЗМВ. Курсы асветна-палітычныя, якія ахапляюць 3/4 нашай моладзі. Будуць праводзіцца агульныя сходы для членаў арганізацыі і нячленаў. Тэмы такіх сходаў мы накрэслілі такія:

1. Партыя — перадавая сіла народа, (лістапад і снежань).
2. Змяняем карту ўраджаяў (студзень і люты). Будзе тут мова перш за ўсё аб заданнях для сельскай гаспадаркі ў святле IX Пленума ЦК партыі.
3. Дэмакратыя ў штодзённым жыцці — асноўныя пытанні грамадска-палітычнага ладу, істота і роля партыі, дэмакратычныя ўстановы, удзел моладзі ў грамадскім жыцці.

Побач гэтых сталых форм палітычнага навучання, хочам, каб моладзь шырока чытала газеты і часопісы, асабліва маладзёжныя і палітычна-грамадскія. Таксама заахвочваем надта да грамадска-палітычнай літаратуры, дыскусіі, спрэчак над кніжкамі.

Будуць адбывацца сустрэчы з моладдзю былых дзеячаў маладзёжных арганізацый ЗМП, ЗВМ. Хочам вучыцца на добрай традыцыі прагрэсіўнага маладзёжнага руху.

### З'ЕЗДАВЫЯ ЧЫНЫ ЗМВ

1. Вясна чынаў — была ў сакавіку і ў красавіку. У першым этапе прыняло ўдзел тысяча гурткоў Саюза вясковай моладзі і 200 тысяч членаў.
2. Другі этап — Лета чынаў — адносілася галоўным чынам да будовы і рамонту дарог і пасадкі дрэў.
3. Ад верасня пачаўся трэці этап — Восень чынаў, прысвечаны З'езду і 25-ай гадавіне ПНР.

Моладзь Беласточчыны прыняла ўдзел у агульнапольскай акцыі «Кожны колас на вагу золата». У Беластоцкім павеце, напрыклад, у гэтай акцыі ўдзельнічала 88 гурткоў і 1 580 членаў. Вартасць працы — 17 тысяч злотых. Добрыя прыклады дала тут моладзь Тапалян, Рафалоўкі, Міхалова. На Помнік Цэнтр здароўя дзіцяці Беластоцкая моладзь сабрала і перадала ўжо 6 тысяч злотых.

### НА ШТОДЗЕНЬ...

Калега Станіслаў Какарэка з'яўляецца адначасова кіраўніком аддзела грамадска-ідэйнай і культурна-асветнай працы ў Ваяводскім праўленні. І цяпер гаворыць ён на гэтую тэму:

У культурна-асветнай працы ідзем на далейшае развіццё клубаў. Моладзь павінна вышукваць лепшыя кватэры на клубы, праводзіць рамонты, дбаць пра іх выгляд, каб у кожным клубе быў тэлевізар. Найважнейшым аднак, каб клубы свае ўмець напоўніць вартасным зместам, умацоўваць грамадскія рады клубаў. Палітычныя спрэчкі, выстаўкі з'ездавых матэрыялаў, сценгазеткі, вечарыны, — усё гэта формы, у якіх павінен знайсці шырокае адлюстраванне V з'езд партыі.

Увогуле культурна-асветная праца — гэта распаўсюджванне музычнага майстэрства, спеву, культурных гульняў безалкагольных вечарын. Вельмі добрай формай з'яўляюцца т.зв. папулярныя ўніверсітэты пры клубах, якія даюць поўныя веды на розныя тэмы.

Мы паклікаем цяпер пры кожным павятовым праўленні групы актыву па 90 асоб, якія будуць працаваць у трох секцыях па 30 асоб. Будуць групы: а) культурна-асветнай працы, б) палітычнай, в) прафесіянальнай і грамадскай.

Гэтыя людзі будуць у пастаянным кантакце з вёскай, будуць служыць парадай і сваімі ведамі.

Справа ў тым, каб нараджалася больш культурных навыкаў, культурнага сужыцця, відавочнага і ў паводзінах і ў вопратцы, размове, у вольным часе і ў працы. Каб знікалі і зніклі стэрэатыпы, традыцыйныя, адсталыя погляды, каб уфармавалася мадэль новага маладога чалавека, новага маладога гаспадара, які многа ведае і многа ўмее, які не ведае, што такое нуда і хуліганства, а жыве ў пастаянным і творчым дзеянні.

Размову запісала **Вера Леўчук**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

## СЕСІЯ ААН

Распачалася чарговая сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Парадак дня прадбачвае разгледзець каля 100 пунктаў. Аднак асноўнымі кірункамі прац распачаўшайся сесіі будзе пісьмо Грамыкі, якое патрабуе, каб за найважнейшую справу прызнаць прысяшэнне маршу ў кірунку раззбраення. Другой вельмі важнай справай, якой займецца Генеральная Асамблея, будзе справа агрэсіўнасці Ізраіля і непадпарадкоўванне гэтага апошняга пастановам Рады Бяспекі. Справа В'етнама, хоць афіцыяльна не знаходзіцца на парадку дня сесіі, будзе мець атрамадны ўплыў на ўсе справы.

Рэалістычную ацэнку сітуацыі ў свеце даў Генеральны сакратар ААН У Тан у сваёй справаздачы. Сказаў ён, між іншым, што назіраецца зараз недахоп поспехаў у дэкаланізацыі свету і аптымістычна выказаўся аб кроках да раззбраення. На прэс-канферэнцыі У Тан між іншым сцвердзіў, што прапанова спынення вайны ў В'етнаме зараз атрымала б большасць галасоў дэлегатаў засядаючых у Генеральнай Асамблеі. Гэтае апошняе сцвярджэнне выклікала заядлыя атакі на Генеральнага сакратара з боку амерыканскай прэсы.

## «СУВЕРЭНІТЭТ І ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АБАВЯЗКІ...

...сацыялістычных краін» — гэта загаловак артыкула С. Кавалёва, змешчанага ў газеце «Праўда». Аўтар між іншым піша:

Народы сацыялістычных краін і камуністычныя партыі безумоўна маюць і павінны мець свабоду, каб акрэсліць шляхі развіцця сваёй краіны. Аднак ніякае іх рашэнне не павінна прыносіць страты як сацыялізму ў сваёй краіне, так і карэнным інтарэсам іншых сацыялістычных краін, усяму сусветнаму рабочаму руху. Гэта азначае, што кожная камуністычная партыя адказная не толькі перад сваім народам, але таксама перад усімі сацыялістычнымі краінамі, перад цэлым камуністычным рухам. Хто аб гэтым забывае, падкрэсліваючы толькі самастойнасць і незалежнасць камуністычных партый, той ухіляецца ад інтэрнацыянальных абавязкаў.

Людзі, — гаворыцца ў артыкуле, — якія «не адобрываюць» дзеянні саюзных сацыялістычных дзяржаў, ігнаруюць той рашаючы факт, што гэтыя краіны абараняюць інтарэсы ўсяго сусветнага сацыялізма, усяго сусветнага рэвалюцыйнага руху.

## НОВАЯ КАМПАРТЫЯ Ў ФРГ

У заходняй Германіі ўзнікла новая камуністычная партыя. Новая партыя мае называцца «Германская камуністычная партыя», ДКП. Новая кампартыя застаецца вернай рэвалюцыйным традыцыям рабочага руху, традыцыям Маркса і Энгельса, Бебеля, Люксембург, Лібкнехта і Тэльмана, — гаворыцца ў дэкларацыі камісіі. А. К.

# БССР

## ГЕРМАНІІ

З некалькідзённым візітам у Мінску знаходзілася група работнікаў Цэнтральнага Камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі на чале з членам ЦК, загадчыкам аддзела па кадрах ЦК **Фрыцам Мюлерам**.

Госці былі прыняты ў Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі, дзе мелі гутарку аб справах падбору, падрыхтоўкі і выхавання кадраў.

## «ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ»

На старонках камсамольскай **«Чырвонай Змены»** апублікаваў артыкул **В. Лашкевіч,** другі сакратар Гомельскага абласнога камітэта КП Беларусі.

«У раёне Петрыкава выяўлена багатае месцанараджэнне хімічных соляў, — піша В. Лашкевіч. — Паводле даных геолагаў, запасы іх складаюць 3,5 мільярда тон. Неўзабаве на базе Петрыкаўскага месцанараджэння будзе пабудаваны калійны камбінат. Можна не сумнявацца, што ў недалёкім будучым на Гомельшчыне пачнецца здабыча і іншых карысных выкапняў».

## ГРОДЗЕНСКАГА

Адбылося пленарнае пасяджэнне Гродзенскага абласнога камітэта КП Беларусі, у якім удзельнічаў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР **У. Лабанок.**

Пленум быў прысвечаны пытанням павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай прадукцыі. З дакладам **«Аб** паглыбленні спецыялізацыі і павышэнні эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці» выступіў першы сакратар абкома партыі **Іван Мікуловіч.**

Вялікую ўвагу пленум удзяліў практыцы падбору, расстаноўкі і выхавання кіруючых кадраў, асабліва спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі і масавых прафесій.

## НАРОДНЫХ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў ганаровае званне народных артыстаў Саюза ССР групе дзеячаў беларускага мастацтва: галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага народнага аркестра Беларускай ССР **Іосіфу Жыновічу** (Жыдовічу), артысту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Здзіславу Стоме** і мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага народнага хору Беларускай ССР **Генадзю Цітовічу.**

## МАЎЗОНА

За заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагародзіў Ганаровай граматай драматурга **Аркадзя Маўзона** (Арона Моўшанзона).

## СЕМІНАР

Адбыўся семінар кіраўнікоў арганізацый таварыства «Веды» вышэйшых навучальных устаноў, навукова-даследчых інстытутаў і абласных доследных сельскагаспадарчых станцый. Удзельнікі семінара праслухалі лекцыі: «Барацьба супраць буржуазнай ідэалогіі на сучасным этапе», «Навука і цывілізацыя», «Аб міжнародным становішчы». (С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

## ПАСЛЫ

26 верасня адбылася ў Варшаве сустрэча Прэзідыума Сейма з прадстаўнікамі ваяводскіх пасольскіх калектываў. У абрадах прыняў удзел маршал Сейма Чэслаў Выцэх і віцэ-маршал Зэнан Клішка. Мэтай сустрэчы быў абмен вопытам у датагачаснай працы ваяводскіх пасольскіх калектываў, а таксама апрацаванне напрамку далейшай дзейнасці. Падчас нарады сцверджана, што праца пасла ў Сейм у тэрэне, утрыманне яго сувязі з насельніцтвам мае асноўнае значэнне ў нашай сістэме сацыялістычнай дэмакратыі. Пасол у Сейм з'яўляецца не толькі членам устаўадаўчага органа, але перад усім грамадскім і палітычным дзеячам, які ў сваёй дзейнасці рашаючым чынам садзейнічае рэалізацыі выбарчай праграмы Фронту адзінства народу.

## ПРАБЛЕМЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

27 верасня адбылася ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі нарада старшынь Ваяводскіх радаў нарадовых і кіраўнікоў аддзелаў сельскай гаспадаркі. З дакладам выступіў міністр сельскай гаспадаркі Мечыслаў Ягельскі. Сцвердзіў ён, што вялікая грамадска-палітычная і прадукцыйная ініцыятыва вёскі сведчыць найлепш аб слушнасці нашай сельскагаспадарчай палітыкі. Аналізуючы прадукцыйныя заданні на наступны год, міністр Ягельскі падкрэсліў, што найважнейшым з іх з'яўляецца пабольшанне прадукцыі збожжа, дасягненне далейшага ўзросту колькасці рагатай жывёлы і свіней. У раслíннай прадукцыі імкнуцца трэба да пашырэння арэалу пшаніцы і хуткай інтэнсіфікацыі прадукцыі збожжа ў паветах з добрымі глебамі.

## СТУДЭНТЫ

У новым акадэмічным годзе распачало навуку каля 295 тысяч студэнтаў, у тым ліку 181 тысяча на студыях дзённых і 114 тысяч — на завочных і вечаровых. Першы год навучаня ў вышэйшых навучальных установах распачало звыш 42 тысяч асоб. Будуць яны вучыцца ў 78 існуючых ва ўсёй краіне ўстановах. У акадэмічных інтэрнатах размясцілася каля 84 тысяч студэнтаў, гэта значыць на 10 тысяч больш, чымсьці ў мінулым годзе. Утрыманне інтэрнатаў каштаваць будзе дзяржаве каля 274 мільёнаў злотых. Амаль 463 мільёны злотых каштаваць будуць стыпендыі і іншыя фінансавыя падтрымкі для студэнтаў. Карыстацца імі будзе 86 500 асоб.

## 5200000000

У перыяд ад студзеня да канца жніўня гэтага года грамадства ўплаціла на Фонд пабудовы школ і інтэрнатаў 1 мільярд 399 мільёнаў злотых. У параўнанні з гэтым самым перыядам мінулага года вынікі гэтыя пабольшыліся на 80 мільёнаў злотых. У суме, ад часу ўзнікнення гэтага фонда, гэта значыць, ад 1966 года, сабрана на пабудову школ і інтэрнатаў каля 5 мільярдаў 200 мільёнаў злотых. (п)

# ВАЯВОДСТВА

## ПАВЯТОВЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У мінулым тыдні адбыліся ў многіх паветах Беластоцкага ваяводства партыйныя даз'ездаўскія канферэнцыі.

### У Гайнаўцы...

...у партыйнай павятовай канферэнцыі прыняў удзел член ЦК і Рады Дзяржавы Уладзіслаў Віха. Партыйная арганізацыя Гайнаўскага павета за апошнія чатыры гады павялічылася на 774 членаў. Між з'ездамі, як адзначыў дакладчык, сакратар Павятовага камітэта Міхал Недзведзь, разраслася Гайнаўка, пераўтвараючыся ў адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў Беласточчыны, і змяніўся воблік усяго Гайнаўскага павета. Аб гэтых справах мы неаднойчы пісалі. Сёння яшчэ прыпомнім, што на працягу 4-х апошніх год на разбудову сацыялістычнай гаспадаркі Гайнаўшчына атрымала амаль паўмільярда злотых.

### У Бельску...

...у павятовай партыйнай канферэнцыі, між іншымі, прынялі ўдзел сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП Вітальд Мікульскі і намеснік старшыні прэзідыума ВРН Уладзімір Міхалюк. 170 дэлегатаў, якія прадстаўлялі звыш 3-тысячную партыйную арганізацыю Бельскага павета, заслухалі даклад І сакратара Павятовага камітэта ПАРП у Бельску Язэпа Пяхоўскага і абмеркавалі найважнейшыя справы свайго павета. З даклада і са спрэчак склаўся вобраз заангажаванасці насельніцтва Бельскага павета. Праяўляецца гэта ў тым, што на працягу некалькіх апошніх месяцаў бельская партыйная арганізацыя павялічылася на звыш 370 кандыдатаў, і ў тым, што грамадскія чыны ў гонар V з'езда ПАРП па сваёй вартасці перавысілі суму 15 мільёнаў злотых, а сяляне Бельшчыны датэрмінова перавыканалі план кантрактацыі збожжа.

### У Беластоку...

...у павятовай партыйнай канферэнцыі браў удзел І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, тав. А. Лашэвіч. Аб сацыялістычных пераўтварэннях у Беластоцкам павеце гаварыў І сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку Аляксандр Камінскі. Аб росце матэрыяльнага дабрабыту працоўных у Беластоцкім павеце сведчыць, між іншым, факт, што сярэдняя заработная плата рабочага павялічылася тут за тры апошнія гады на звыш 300 зл., а ў вёсках колькасць трактараў падвоілася. Зараз сельскагаспадарчыя гурткі сваёй дзейнасцю ахапілі ўсе вёскі павета. Грамадскую актыўнасць насельніцтва найлепш адлюстроўваюць даз'ездаўскія чыны, вартасць якіх дасягнула суму 43,5 мільёнаў злотых.

Усе партыйныя канферэнцыі выбралі дэлегатаў на Ваяводскую партыйную канферэнцыю.

(вр)

# З ДАПАМОГАЙ ШТЫКОЎ

Урад Злучаных Штатаў усур'ёз заклапочан барацьбой з рухам негрыцянскага народа за грамадзянскія правы і з удзельнікамі магутных антываенных дэманстрацый. Да нядаўняга часу ў аперацыі па падаўленню «грамадзянскіх беспарадкаў» былі ўцягнуты толькі паліцэйскія і атрады нацыянальнай гвардыі. Але гэтых сіл аказалася недастаткова, і Вашынгтон звярнуўся за дапамогай у міністэрства абароны. Так, на перыяд з'езда дэмакратаў у Чыкага Пентагон «на ўсякі выпадак» выдзеліў шэсць тысяч спецыяльна натрэніраваных салдат.

Як сведчыць амерыканская прэса, спецыялістаў міністэрства абароны прыцягнулі да вывучэння праблем, звязаных з падаўленнем хваляванняў у амерыканскіх гарадах. Яшчэ задоўга да красавіцкіх падзей, звязаных з забойствам барацьбіта за грамадзянскія правы Марціна Лютэра Кінга, групы армейскіх спецыялістаў правялі рад нарад з мэрамі гарадоў, начальнікамі паліцэйскіх участкаў і пажарных упраўленняў. На гэтых нарадах аналізаваўся састаў насельніцтва гарадоў, вывучаліся абставіны папярэдніх хваляванняў, рабіліся прагнозы наконт таго, дзе могуць выбухнуць беспарадкі ў бліжэйшым будучым. Усе гэтыя даныя затым уключаліся ў спецыяльны зборнік «Характарыстыка горада», які выпускае спецыяльнае ўпраўленне... па грамадзянскіх беспарадках. Гэта ўпраўленне было створана ў Пентагоне ў красавіку сёлетняга года. Яго апарат са 180 чалавек, які ўзначальвае генерал-лейтэнант Джордж Мэтэр, называюць «нервовым цэнтрам» па ажыццяўленню ваеннага кантролю над хваляваннямі.

У дапаўненне да гэтага ў Пентагоне кожны тыдзень сустракаюцца члены «арганізацыйнага камітэта па грамадзянскіх беспарадках». Кіруе камітэтам адзін з намеснікаў ваеннага міністра ЗША Дэвід Макгіферт, а членамі камітэта з'яўляюцца высокапастаўленыя асобы ўсіх ваенных ведамстваў, а таксама аб'яднанага камітэта начальнікаў штабаў і міністэрства юстыцыі.

Асноўная ўвага на пасяджэннях камітэта ўдзяляецца распрацоўцы мер па «найбольш эфектыўнаму і хуткаму» падаўленню грамадзянскіх беспарадкаў. Гэтыя меры прадбачліва ўключаюць паездкі камандзіраў спецыяльна натрэніраваных брыгад у тыя гарады, у якіх могуць адбыцца хваляванні. На месцы яны знаёмяцца з планіроўкай горада, распрацоўваюць аперацыі каардынуючы дзеянні арміі, нацыянальнай гвардыі і паліцыі.

Паводле апошніх даных, спецыяльную трэніроўку па падаўленню гарадскіх хваляванняў атрымалі 160 тысяч салдат амерыканскай арміі. Разам з рэзервістамі і салдатамі нацыянальнай гвардыі яны складаюць пяцісоттысячную армію, гатовую ў любы момант расправіцца з дэманстрантамі. Удзел амерыканскай арміі ў разгоне дэманстрацый пераканаўча сведчыць аб унутрыпалітычным напале ў краіне ў год прэзідэнцкіх выбараў. Так напрыклад армія ў час рэспубліканскага і дэмакратычнага з'ездаў у Майамі і Чыкага забяспечыла кандыдатаў у прэзідэнты сакрэтнай аховай, верталётамі і нават зрабіла паветраныя здымкі абодвух гарадоў. А. П.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 4 października**

7.30 Dla szkół. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla przedszkolaków. 8.30 „Z pól". 9.00 Teatr TV. 15.00 „Nowiny". 15.10 Program dnia. 15.15 Dla uczniów. 15.45 Festiwal filmowy. 16.05 Film TV dla dzieci. 16.15 „Historia fabryk". 16.45 „Nasza poczta". 17.00 „5+2". 17.30 „50 lat BSRR". 20.30 „Braterstwo". 21.00 Hokej. „Spartak" (Moskwa) — „Torpedo" (Gorki). 21.30 „Tylko fakty".

**Sobota, 5 października**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 „Gimnastyka". 7.45 Dziennik. 8.00 „W dniu imienin". 8.30 „Reportaż sobotni". 9.00 „Wiedza". 9.45 „Źródło". 10.45 „Zdrowie". 11.15 Teatr TV dla dzieci. 12.30 Komentarz międzynarodowy. 12.50 Koncert życzeń. 13.25 „Samochód, pieszy, ulica". 13.45 „Sosny zaglądają do okna". Film dokument. 14.05 TV barwna. 15.45 „Klub filmowy". 16.45 W eterze „Młodość". 17.30 „Przy płomyku". 18.30 „Czas". 19.00 W. Katajew „Kwadratura koła". Spektakl TV. 21.15 Koncert piosenki lirycznej.

**Niedziela, 6 października**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 „Gimnastyka". 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 Kalendarz TV. 8.30 „Album przyrody". 9.00 Droga do wiedzy". 10.00 Literacko-muzyczna kompozycja. 10.25 „Człowiek ziemi mojej". 10.50 Festiwal filmowy. 12.30 „Kiosk muzyczny". 13.00 Hokej. CSKA — „Skrzydła Rad" (Moskwa). 15.15 Biblioteka poezji białoruskiej R. Tarmoła. 15.40 Koncert orkiestry kameralnej. 16.15 „50 lat BSRR". 16.45 Spektakl teatralny. 19.15 „Siedem dni". 20.00 „Pierwszy nauczyciel". Film fabularny.

БЕЛАВЕЖА
ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №118

## ГНЕЎ



— Халеры на цябе няма!!

Гэта бацька крычыць на маці. Ад самога рання.

— Чаму кароў не падаіла, га?!

Я нацягваю коўдру на галаву.

Маці кладзе палены ў печ і маўчыць.

— Вядро вынясі!

Маці яшчэ штосьці робіць у хаце. Чую, як бацька пад'ехаў возам пад парог.

— Вынясеш ваду, ці не!?

— Ужо, ужо...

Маці панясла вядро з вадою на панадворак.

— Не можаш выцягнуць свежай вады, халера!..

Слухаю, як маці пабегла да студні.

— Трр-рр... трр...

Тут, у каморы, чую кожнае слова бацькі.

— Аяй, як яна спяшыцца... Да ўсяго так спяшыцца. Рыцыны трэба даць!

— Табе рыцыны!

— Давай воду!

Маці падала вядро. Кабыла памачыла храпы ў вадзе і падняла галаву. Не хацела піць.

Бацька ўдарыў лейцамі па кабыле і выехаў на вуліцу. Паехаў.

**Эдвард Ярашэвіч**

## ВОСЕНЬ

**Разлівае сонца ўсялякія фарбы,
Серабром у лужынах зіхаціць.
Вецер раскідае багатыя скарбы,
Залатое лісце з пазвонам ляціць.**

**З белае бярозы абцякаюць слёзы,
Як шэрая плахта сцелецца імгла.
Ля дарогі сыплюць пазалоту лозы,
Цяжарная хмара з-за лесу прышла.**

**Вецярок павеяў, праляцела хмарка,
Ля акна пры хаце загарэўся клён.
Ўжо дзянёк кароткі, пралятае шпарка,
Чорнаю асновай злазіць змрок з красён.**

**Выплывае месяц і глядзіць на стрэхі,
Палівае яснасць на зялёны мох.
А у хаце гоман, вясёлыя смехі,
Траскоча ў патэльні, пражыцца гарох.**

**Зноў хмара неба зацягае,
А вецер у дрэвах голасна шуміць.
Апошні ў вёсцы агеньчык згасае,
Ноч грэбянём чорным чэша валасы...**

**В. Асіповіч**

### З сучаснай польскай паэзіі

ЦЭЗАРЫ АБРАМОВІЧ

## ЗАЧАРАВАННЕ

Шляхамі кінаварнымі
крочу штодзённа
да крыніцы спакою
піць з сасмаглымі
аленямі і канямі,
блукаю зачараваны
па верасовых пажарышчах,
збіраючы ў крынку
фарбы неба і зямлі
і ціш блакітную, на лекі
супраць іржы стамлення,
або петлі стаўлю
на чужыя смуткі,
што каркаюць захланна,
бо хоць я з сонцам
і небам у дружбе
і ў метрыкі лесу запісан,
не дуб я і не бяроза
з казачнай краіны
дзён змуршэлых, бо мне
замала для шчасця
майго ўласнага шчасця
і зачаравання.

З польскай пераклаў
**Мікола Гайдук**

## Макарка і хмарка

Плыве па сінім небе шпарка
Купчатая сівая хмарка.
Унучак кажа: мілы дзеду
Ты падсадзі мяне, паеду.

Я, дзедка, з хмаркі гляну вокам
На навакольны свет шырокі
І раскажу табе багата
Вярнуўшыся ізноў дахаты.

**Віктар Швед**



* * *

На лістку тваім, пушча,
узлячу зноў да сонца,
прынясу зорку з неба,
вярнуся ў дубровы.
не прагну раскошы —
дай чорнага хлеба,
дазволь мне напіцца
з крыніц роднай мовы,
і бі мяне пушча
галінаю жорсткай
за тое, што выйшаў я
з роднага саду,
без сэнсу здзіраў
тратуары і вёрсты.
І здрадзіў пушчанай
радасці.
як трэба крыжуй,
але толькі на клёне,
і вешай на косах
разгойданых вёсен,
і выбяры цені
для жорсткай кароны
з іголак задумлівых
сосен,
а вершы —
як толькі табе да спадобы, —
на варце пастаў
нібы грушы на межах,
хай скамянеюць так
нібы Нёба
ля ног Белавежы.

**Алесь Барскі**





Акт. **А. Хомчык**

## ◆ У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТ ◆

Вера пакінула мяне ў першы дзень Велікодных свят.

Яна сказала:

— Лягчэй будзе, калі я выеду.

Я не аказаўся. Хацеў сказаць, што я вінаваты.

Потым сказаў:

— Я правяду цябе да аўтобуса.

Яна канчала зашпіляць гузікі плашча.

— Памагу табе нясці пачку, — сказаў я.

На табурэце вялікі пакунак чагосьці, а каля табурэта лёгкі чамадан. Я ўзяў пакунак і мы выйшлі.

Сярэдзінаю вуліцы Марыі Складоўскай-Кюры ішоў хлопец і смяяўся да дзяўчыны на тратуары.

Я стаў і сказаў да Веры:

— Пачакаем на таксі.

Яна глянула на мяне, як на дурня.

Ад Рынку Касцюшкі ехала таксі, хлопец замахаў рукамі, падбегла дзяўчына, яны вельмі цешыліся. Таксі спынілася, бы певень, распусціла крылы дзверцаў, хапаючы малады смех. І ў горадзе зрабілася зусім пуста.

Людзі на аўтобусным вакзале здаваліся астанкамі насельніцтва, ацалелага ад страшэннай эпідэміі. Прыціхлыя і неспакойныя, чужыя і непатрэбныя, з пакрыўджанымі тварамі, як у шафёраў злосных у гэты дзень на сабачую службу.

Вера ад'ехала.

Прастаяў я на вакзале пакуль не сканала сонца, спудзіўшы апошні аўтобус. Тады пайшоў да дзяжурнай руху, жанчыны ў разгары жыцця, і ў яе прасядзеў мо з гадзіну часу. Гаварылі мы аб сэнсе жыцця. Яна нецярпліва чакала чаго другога, яе вочы здзяцінелі і ад таго я пачуўся ненармальна.

І выйшаў у ноч.

**Сакрат Яновіч**



* * *



Свяціла сонца на зары,
Мігцелі срэбрам росы,
Гучэў у небе і ў бары
Хор птушак стогалосы.

А вечарамі салаўі
Любоўна песні пелі
І майскія жукі гулі,
Каханнем сэрцы млелі.

Ды я глядзеў за годам год
На гэта ўсё нібы чужы.
У сэрцы змучаным быў лёд,
У думках — церні і крыжы.

Аднак сустрэў цябе я раз —
І свет рассыпаўся у пыл,
Шумлівы, ясны дзень пагас,
У сэрцы — смутак, боль тупы.

І дзень, і свет, і млечны шлях,
Ад сонца — да марскога дна,
Усё было ў тваіх вачах,
А на планеце — ты адны...

Шумелі нівы, падаў снег,
Убор зямлі мяняўся.
Мне сніўся стан твой, погляд, смех,
Што нібы ты мая ўся...

Часамі хтосьці жартаваў:
«Ці не ўлюбіўся дзядзька?»
А я... Цябе я вартаваў
З упартасцю юнацкай.

Ды што ж? Ты юнае дзяўча,
Ў мяне паўвеку за плячыма.
Хачу сцяць зубы ды маўчаць,
Але маўчаць хіба магчыма?

Маўчу. У сэрцы выюць штормы,
Нікому не кажу ні слова.
Усё мне выдаецца чорным
І днём, і раніцай вясновай.

Гляджу любоўна на твой след,
Бы да яго прыкуты.
Чаму ж так створаны наш свет?
На што любоў, пакуты?...

**А. Чэмер**

## ⁂ КОНКУРС ⁂

Галоўнае Праўленне БГКТ абвяшчае літаратурны конкурс на сцэнічныя творы:

**1. П'еса (камедыя, драма, трагедыя).**

**2. Сцэнка (гумарыстычна-сатырычная).**

**3. Скетч.**

За найлепшыя працы будуць прызнаны:

**І-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 1400 ЗЛ.**

**ІІ-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 1100 ЗЛ.**

**ІІІ-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 800 ЗЛ.**

Тэрмін надсылання прац у ГП БГКТ (Беласток, вул. Варшаўская 11) да 10 снежня 1968 г.

Конкурсныя працы павінны быць падпісаны псеўданімам, а сапраўднае прозвішча і адрас — далучаны ў заклееным канверце.

Вынікі конкурсу будуць надрукаваны ў «Ніве» ў канцы снежня г.г. За лепшыя неўзнагароджаныя работы прызнаюцца кніжныя прэміі.

Найлепшыя творы будуць апублікаваны.

**Галоўнае Праўленне БГКТ**

 

# АДКРЫЦЦЁ КУЛЬТУРНАГА ГОДА

21 і 22 верасня г.г. адбылося ў Кольне адкрыццё новага дома культуры і культурнага 1968/69 года.

У прысутнасці віцэ-міністра культуры Тадэуша Заорскага, ваяводскіх і павятовых уладаў і прадстаўнікоў грамадска-культурных арганізацый адкрыў урачыстасць мгр Л. Ахоцкі, намеснік старшыні ВРН.

Аб становішчы і развіцці культуры на Беласточчыне расказаў кіраўнік Аддзела культуры мгр Юзэф Кая.

— Бібліятэкі Беласточчыны, — сказаў Ю. Кая, — занялі ў апошнім часе першае месца ў дзяржаве. У 1967 г. адкрыта 12 новых бібліятэк і 117 бібліятэчных пунктаў. На сённяшні дзень існуе ў нас 320 бібліятэк і 2457 бібліятэчных пунктаў. У мінулым годзе колькасць кніг павялічана на 175000 тамоў. Грамадскі актыў ахвяраваў на рост бібліятэк 87000 зл.

На інвестыцыі для дамоў культуры выдзелена 530000 зл. Намечана адчыніць новыя бібліятэкі ў Алецку, Кольне, Бельску. Дзейнічае 468 клубаў, 374 культ-асветных калектываў, да якіх належыць 9900 асоб.

У 73 народных універсітэтах вучыцца 2800 слухачоў, 413 артыстычных груп абымае 5800 актыўных членаў.

На Беласточчыне дзейнічае 15 рэгіянальных культурна-асветных таварystваў. Найбольш дынамічнымі з іх з'яўляецца Беларускае грамадска-культурнае таварыства, а таксама літоўскае, украінскае.

Віцэ-міністр Заорскі падкрэсліў, што тэмпы культурнага росту Беласточчыны большыя, чым іншых зямель краіны. Аднак і гэта недастаткова. Наша арганізацыйная работа не паспявае за патрэбамі жыцця.

Галоўнымі задачамі культурна-асветных устаноў павінна быць арганізацыя духовага і артыстычнага асяроддзя і накіроўванне ў напрамку ўзмацнення сацыялізма, патрыятызма. Не можам быць бяздзейнымі пры скарачэнні часу працы. Трэба дабіцца, каб людзі ў вольны час займаліся не гарэлкай і півам, але здаровымі і карыснымі спосабамі адпачынку. Толькі нашая актыўнасць можа скіраваць людзей на артыстычныя, навуковыя, грамадскія сцежкі дзейнасці.

Поруч са школай мы павінны раз'ясняць грамадзянам, што сацыялізм Варынскага, Врублеўскага, Навоткі — гэта сацыялізм наш, накіраваны для нашай карысці, карысці рабочага і селяніна перад усім.

Абшырным рэфератам дапоўніла афіцыйную праграму гр. рэд. Маршалэк, пасля чаго адбылася дыскусія.

У прыгожай зале, разлічанай на амаль 300 месц, адбыліся мастацкія выступленні школьнікаў і гарцэраў. А ў вёсцы Лысыя ўдзельнікі агледзелі клубную работу курпёўскага асяроддзя, паслухалі канцэрт мясцовых артыстаў.

**А. Чэмер**

У ТЭАТРЫ А. ВЯНГЕРКІ

# ЗАМУЖНЯЯ НЕЗАМУЖНЯЯ

## *Panna Mężatka*

Могуць быць і такія сітуацыі, як кажа загаловак. Як да таго даходзіць, бачым у п'есе, якую паставіў Беластоцкі тэатр. Аўтар **Юзэф Кажэнеўскі**, рэжысёр **Андрэй Дабравольскі**.

**На здымку (злева): Ванда Эльбінская, Тадэуш Кудук, Яўгені Дзяконскі, Станіслава Маслоўская.** (вл)



# АБ МОЛАДЗІ ЛІЦЭЯ

Нядаўна мы інфармавалі чытачоў аб цэннай ініцыятыве настаўнікаў і моладзі міхалоўскіх школ. Сёння хочам нешта шырэй расказаць аб вучнях агульнаадукацыйнага ліцэя, а перш за ўсё ўказаць на іх грамадскае заангажаванне.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы вялікая колькасць чынаў, якія выканалі вучні. Пад кіраўніцтвам настаўніка **Лешка Носа** пабудавана геаграфічны садзік (вартасць больш 100 тыс. зл.). Каля 500 рабочагадзін моладзь перапрацавала пры пасадцы лесу і толькі ж пры пабудове дарог. Моладзь не толькі горнецца да грамадскай працы, гаварыў мне **дырэктар Нядзведскі,** што нават калі хто дрэнна сябе адчувае, дык не прызнаецца і хоча ісці да працы. А гэтая актыўнасць найбольш відавочна ў апошніх гадах.

Асаблівую дзялянку актыўнасці моладзі міхалоўскага ліцэя складае **школьная арганізацыя ЗМС.** Тут ствараецца большасць ініцыятывы моладзі. Увагу звяртае гурток маладых рацыяналістаў, якія працуюць згодна з праграмай ЗМС, а душой яго з'яўляецца настаўнік **Веслаў Марціняк.** Гурток дзейнічае толькі другі год. На занятках вучні паказваюць фільмы, напрыклад, аб горадзе на Захадзе і ў Польшчы, а потым у дыскусіі параўноўваюць. Штопраўда, не ўся моладзь актыўна дыскутуе, і гэта зразумела, але трэба сказаць, што міма толькі гадавой працы, вырабіўся дыскусійны актыў. У мінулым годзе ЗМС і гістарычны гурток арганізавалі дзве папулярна-навуковыя сесіі. Моладзь падрыхтавала вельмі цікавыя даклады, сабрала шмат матэрыялаў, часта вышукоўваючы ветэранаў — сведкаў падзей.

Тры гады таму назад гуфец ОГП з міхалоўскага ліцэя быў няўдачны. Але хіба гэта апошні такі гуфец. Зараз рэкрутацыяй у ОГП (ахатнічыя гуфцы працы) займаецца школьная арганізацыя ЗМС. Моладзь сама дабіраецца і з таго мае карысці. У гэтым, напрыклад, годзе **вучань Янка Сыта,** (адкінуўшы падатак і за адзенне), зарабіў у гуфцу 740 зл. У пэўнай меры сімвалам актыўнасці школьнай арганізацыі ЗМС пры міхалоўскім ліцэі быў факт, што яе член, вучаніца (зараз абсальвентка) **Рэгіна Аслаўская** атрымала ў мінулым годзе медаль Янка Красіцкага.

Наогул у ліцэі справы так пастаўлены, каб як найбольш моладзі выслаць куды-небудзь на час канікул. Каб гэта распрапагаваць сярод моладзі, ужо некалькі год, на пачатку навучальнага года, адбываецца «апэль» «Як мы правялі канікулы». Тут прадстаўнікі паасобных груп складаюць рэляцыі з розных пабывак, на курсах ПО, ЗМС, ОГП і іншых. З матэрыяльнай дапамогай прыходзіць бацькоўскі камітэт школы тым вучням, якія мусяць унесці пэўную аплату, а матэрыяльная сітуацыя ім на гэта не дазваляе. За добрыя паводзіны моладзі на рознага тыпу курсах і лагерах дырэкцыя школы часта атрымлівае падзякі.

Інтэрнат, які змяшчаецца ў школьным памяшканні, ад некалькіх год абслугоўваецца самой моладдзю. Штатных працаўнікоў у інтэрнаце ўсяго 5 чалавек: 3 кухаркі, інтэндэнтка і стораж. Кіраўнічая кадра і кадра выхавальнікаў мае толькі зніжку гадзін, а дакладней кажучы, працуе ў інтэрнаце грамадска часта не лічачыся з часам. Але як моладзь сама ўтрымоўвае тут чыстасць і парадак, можа пазайздросціць таму не адзін інтэрнат са штатнымі прыбіральшчыцамі. Расказваюць тут, што «вюркаванне» падлогі моладзь робіць у такт біг-бітовай музыкі, якая плыве з прынесенага, на той час, магнітафона. Можа гэта і смешна, але напэўна карысна.

Ці ёсць над чым працаваць? Напэўна. Першапланавай справай, гаварыў дырэктар, ёсць школьнае самакіраванне. Справа ў тым, каб праўленні чуліся сумесна адказнымі за вынікі навучання, арганізацыю дыжураў ці пашанаванне школьных прылад і навуковых дапаможнікаў. З другога боку моладзь павінна зразумець, што навука гэта не прыватная справа кожнага з іх, але грамадская, таму што грамадства на гэта складае сродкі.

Хаця і ў тым месцы моладзь міхалоўскага ліцэя з'яўляецца перадавой. У мінулым годзе абсальвенты гэтага ліцэя занялі першае месца па складанні экзаменаў у вузы. На 45 экзаменаў здалі 44 г. зн. не зданых толькі 2,2% экзаменаў, калі сярэдняя ваяводская мае 21,7%. Абсальвентка **Зіна Матыс,** якая ў гэтым годзе здавала экзамены ў Медыцынскую акадэмію, атрымала аж 42 пункты, а перавышаў яе толькі кандыдат з Варшаўскага ваяводства, атрымаўшы 43 пункты.

Вось гэта толькі некаторыя інфармацыі аб працы моладзі правінцыянальнага ліцэя, ліцэя, які змагаецца не толькі з цяжкімі памяшкальнымі ўмовамі. Мы паказалі станоўчыя прыклады працы і навукі моладзі, каб у канцы сцвердзіць, што гэта магло стацца толькі дзякуючы самаадданай ахвярнай працы настаўнікаў і дырэкцыі школы. Вядома, што ёсць многа яшчэ ўсяго зрабіць, але вышэй прыведзеныя прыклады — неабвяргальныя доказы вялікіх дасягненняў.

**А. Лабановіч**

# Збор экспанатаў у Беларускі грамадскі музей у Белавежы ў 1968 годзе

У гэтым годзе ГП БГКТ пастанавіла сабраць у Беларускі музей 200 новых экспанатаў. У ліпені і жніўні працаўнікі ГП і аддзелаў, а таксама працаўнік музея выязджалі некалькі разоў на пошукі старых прадметаў. Дзякуючы прыхільнасці вясковых людзей, а таксама актыўнасці працаўнікоў, якія праводзілі збор, удалося нам ужо выканаць пастановы і сабраць 220 новых экспанатаў. Вялікую ролю ў гэтай працы адыгралі Ул. Юзвюк, М. Лобач, М. Вішанка, М. Сэрадзінскі, В. Бура, А. Сэвасцянюк і іншыя. Трэба таксама сказаць аб вялікай дапамозе, якую прынёс нам у ваколіцах Дубіч Царкоўных Я. Блізнюк, які добра ведае насельніцтва гэтых ваколіц. Дзякуем усяму грамадству за ахвярнасць і спадзяемся, што пры наступных зборах будуць нам таксама ахвотна аддаваць старыя рэчы, якіх ужо не ўжываюць. Усе гэтыя рэчы знаходзяцца на выстаўцы і дэманструюць людзям усяе Польшчы і з-за граніцы як калісьці нашы продкі жылі, як умела выраблялі самі, без дапамогі тэхнікі, амаль усе патрэбныя ім у жыцці і цяжкай працы рэчы. У спіску ахвярадаўцаў не ўключана вынікаў збору ў вёсцы Свірыды, Бельскага павета, таму што аб гэтым публікавалася ўжо ў «Ніве» з 21 ліпеня г. года.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Чэхі Арлянскія**

Ян і Параскева Тафілюкі — ступа, джаган, прач, клешчы, капылы, скрынка.

Арцём Данілюк — бандарскі ўгольнік, капыл да валянкаў, обад, клешчы шыць шоры.

Васіль Андросюк — таўкач, капыл, рамка да акна, матычка.

Рыгор Андросюк — бэрда, прасніца.

Мікола і Пятро Васілюкі — падстаўка да развітушак, прасніца, лапата да хлеба.

Віктар і Анна Самасюкі — барана.

**Вітава**

Фёдар Аўсенюк — маценька, ключкі віць вяроўкі, капылы.

Анастасія Нічыпарук — лапата да хлеба, аднаручны таўкач, накрыўка на каробку.

**Грабавец**

Анатоль Казмірук — бэрда, шпулечнік, фіта, хадакі, верцеха, дошка да выцягвання перадоў.

Галіна Рута — скрынка, сальнічка, грабло, кадаўбец на соль.

Анастасія Леанюк — дымарка да пшчол, нічаніцы, валкаўніца, дастаўка да дзежкі, драўляныя ложкі.

Наталія Панфілюк — гаршкі і многа розных кавальскіх вырабаў.

Сяргей Нэстэрук — трапачка, сякач.

Сямён Васілюк — кадаўбец на лён, ткацка ігліца.

Дар'я Васілюк — таўкач, матавіла.

Анна Малашкевіч — чайнік, бэрда.

Сяргей Кулік — сашнік.

**Елянка**

Пятро Клімюк — каробка, пляцёнка з саломы, кадаўбец на перац, канёк, два нажы сцінаць асот, рагалі да каўбас.

Дзміцер Клімюк — ляшчоткі да сала, каньчуг, рагалі да каўбас, сякачка, сетка на каня (каганец).

Сафія Пракапюк — падстаўка да развітушак, жалезны крыж, рагалі да каўбас, аплецены гаршчок, ражны да воза, таўкач, ножніцы, накрыўка, рогі, матавіла, гальвітка.

Марко Нікіцюк — спуст і сярпы.

Ніна Клімюк — пацёс.

**Забалоччына**

Аксеня Валкавыцкая — прасніца, сальніца.

Міхал Валкавыцкі — маценька.

Юлія Кісялеўская — сукальнік.

**Лука**

Сямён Лобач — кошык.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Слоя**

Софія Прымак — пяць сярпоў, шчоткі часаць лён, трапачка, нічаніцы, валак, «сабачка» сцягваць боты, ворчык, бэрда, ножніцы.

Аляксей Прымак — бойка да масла, матычка да буракоў, пасталы, апалушка, санкі, вілы, куляса.

Анна Федзюкевіч — прасніца, лапата да хлеба.

**Сукавічы**

Пятро Казакевіч — вітушкі.

Аляксандр Аўхімюк — асада да перадка воза.

**Кнышэвічы**

Яўгінія Чэховіч — калыска і рагачы вешаць калыску.

Анна Казлоўская — калаўротак.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Страшава**

Мікалай Лебядзінскі — служка, шчоткі да ільну, трапачка, вітушкі, варштат рабіць шалі, шпуля, таўкач, зубіла, гэблік, пілачка, капылы, пастка на пацукоў, шчоткі крыць стрэху.

Ольга Лебядзінская — жалезныя бёрды, пругі да ручнікоў, служка, смычка да сена, каблук да кошыка, саламяныя пляцёнкі і шыла плясці іх, бязмен.

Ольга Карпюк — ігліца, рэйдкі на-



 

 

ТРЫЦЦАЦЬ ГОД НАЗАД

# БУХЕНВАЛЬДСКАЯ БОЙНЯ

Каля трыццаці год таму назад заснавана ў гітлераўскай Нямеччыне адзін з найбольш страшных канцлагераў — Бухенвальд. Як на іронію знаходзіўся ён паблізу слыннага цэнтра нямецкай культуры — Веймара.

Злачынствы гітлераўцаў асаблівага размаху набылі пасля нападу на Савецкі Саюз. Увосень 1941 года давозілі сюды эшалоны савецкіх салдат, трапіўшых у няволю. Кожны такі эшалон адразу расстрэльвалі. Праз нейкі час эсэсаўцы агледзеліся, што такія масавыя расстрэлы на адкрытым месцы выклікаюць «нядобрае ўражанне» сярод дзесяткаў тысяч лагернікаў, завезеных сюды. Пастаноўлена праводзіць забойствы больш «далікатным» спосабам. Да гэтага выкарыстана вялікую стайню, пераўтвораную ў, так званую, «бальнічную палату». Ужыта аслаўлены гітлераўскі спосаб ашукоўвання сваіх ахвяр, каб недапусціць да настрояў супраціўлення і бунту.

Ваеннапалонных уводзілі ў гэту «бальнічную палату» ноччу, вітала іх прыемная музыка з пласцінак, трансліраваная ў рэпрадуктарах. Палонныя распраналіся дагала і кіраваліся на «лекарскі агляд» у адным з памяшканняў, падобным на лекарскі кабінет. Уваходзілі па адным — нявольніку «мералі рост». Калі станавіўся ён перад вымяральным апаратам, «лекар» непрыкметна стукаў у сцяну, адкрываўся клапан, праз які схаваны там забойца страляў проста ў патыліцу. Трупа хутка адвалакалі ў іншае памяшканне, уваходзіў наступны нявольнік, увесь час іграла музыка, апранутыя ў белыя халаты «лекары» галасна выдавалі розныя распарады, выклікалі нумары і г.д. Усё рабілася па тое, каб не было чуваць стрэлаў. Такім чынам ліквідавана штодзень ад 20 да 150 ваеннапалонных.

Аднак неўзабаве прызнана, што такая працэдура замала «прадукцыйная», потым уводзілі ў «лекарскі кабінет» па 7—8 чалавек і забівалі іх з аўтаматаў. Аўтаматныя чэргі аднак жа былі чутны ў канцлагеры і выклікалі неспакойныя настроі. Тады прыдумана яшчэ больш «дасканалы» метад забівання — аўтаматы заменена цяжкімі кіямі. Забітых адвозілі грузавымі машынамі ў крэматорыю, дзе палена трупаў. Дарога ад стайні да крэматорыі была заліта крывёю, што адразу заўважылі лагернікі. Эсэсаўцы зноў ухітрыліся — замест грузавікоў пачалі ўжываць да перавозу машын накшталт цынкавых ваннаў, падобных да транспарту, які ўжываецца ў бойнях. У гэтых ваннападобных машынах кроў затрымлівалася, не выцякала на зямлю.

У днях, калі «прадукцыйнасць» была асабліва высокай, крэматорыі не паспявалі са спальваннем трупаў, у скляпах крэматорыяў утвараліся несамавітыя крушні, з якіх неаднаразова выпаўзалі цяжка параненыя, жывыя яшчэ людзі. Іх дабівалі кіямі прафесіянальныя злачынцы, з зялёнымі вінкелямі, якіх эсэсаўцы ахвотна стаўлялі да працы пры крэматорыях.



**Славуты фашысцкі кат — шэф гестапа — Генрых Гімлер наведвае адзін з канцэнтрацыйных лагераў для савецкіх ваеннапалонных.**

Аб тым, што тварылася падчас выгрузкі машын, давозячых пабітых да крэматорыяў, расказвае вочны сведка, нямецкі палітычны вязень:

«...не ўсе салдаты былі мёртвымі, бо ж кожны раз, калі нацысты ўкідалі ў склеп поўную машыну людскіх целаў — узнімаўся там несціхаючы лямант ды енкі; некаторыя расстрэленыя, падаючы на цвёрдую цэментавую падлогу ў склепе, прыходзілі да прытомнасці».

Пасля такога працавітага дня эсэсаўцы атрымлівалі дадатковыя надзелы хлеба, кілбасы, маргарыны і гарэлкі, а некаторых узнагароджана нават крыжамі ваеннай заслугі.

Многія з іх па сённяшні дзень жывуць на свабодзе, карыстаюцца даверам і пашанай з боку заходненямецкіх улад, займаюць добра аплачваемыя пасады.

(ся)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЯК УЗНІКЛА ХІМЧЫСТКА

Хімічную чыстку ніхто спецыяльна не вынаходзіў. Кажуць, што яна была ўжыта ў 1870 годзе ў Марселі зусім выпадкова. Партовы рабочы ўваліўся ў бочку са шкіпінарным маслам. Калі яго выцягнулі адтуль, звярнулі ўвагу, што пасля такога «купання» яго адзенне зрабілася на дзіва чыстае.

Новае «вынаходства» хутка пачалі ўжываць ва ўсім свеце — карыстацца шкіпінарам для чысткі адзення. У 1910 годзе шкіпінар быў заменены бензінам, а ў апошнія гады — рознымі сінтэтычнымі сродкамі.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

Для атрымання фотаздымка ў пачатку XIX стагоддзя патрабавалася сядзець перад фотаапаратам нерухома восем гадзін. Спосаб павелічэння фотакартак не быў вядомы да канца стагоддзя, і для атрымання фотакартак вялікага фармату часам стваралі камеру вагой да 635 кілаграмаў, з пласцінкамі памерам 3x2,5 метры.

## Індустрыя жахаў

«Тым, хто пакутуе бяссонніцай, баіцца цемнаты і начных шорахаў, людзям нервовым і лёгка ўзбуджальным мы не раім глядзець гэты фільм». Гэтыя словы звычайна гаворыць дыктар англійскага тэлебачання перад чарговым паказам аднаго з «хорар-фільмаў» — «фільма жахаў», якія літаральна навадніла ў апошні час англійскі кінаэкран і часткова захапілі тэлебачанне. Папярэджанне дыктара, зразумела, выклікана не клопатамі аб «нервовым тэлегледачу», а наадварот, служыць своеасаблівай формай прыцягнення шырокага тэлегледача да фільма, у якім вампіры, садзісты, монстры, шкілеты і трупы з'яўляюцца галоўнымі дзеючымі асобамі, а паказ насілля, крыві, пакут складае аснову фільма. Газета — «Піпл» пісала днямі: «Жахі сталі неад'емнай часткай штодзённага жыцця — паўсюдна «кнігі жахаў», «фільмы жахаў», віншавальныя паштоўкі з жахамі і нават запісы жахаў на пласцінках». Прычыну небывалага распаўсюджання культу насілля і жаху «Піпл» тлумачыць проста: гэта прыносіць іх вытворцам фантастычныя прыбыткі. Дастаткова сказаць, што чысты прыбытак ад кожнага з «фільмаў жахаў», якія паказваюцца ў Англіі, складае, паводле заявы газеты, прынамсі, мільён фунтаў стэрлінгаў. Экспарт такога фільма за граніцу прыносіць даход ад трох да шасці мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Пагубны ўплыў, які гэтыя фільмы аказваюць на англійскую моладзь, не скрывае і буржуазны друк. Тая ж «Піпл» адзначае, што «эксплуатацыя насілля і садзізму намнога больш небяспечная з'ява, чым звычайная парнаграфія». Неспакой грамадскасці мае пад сабой вялікія асновы: у апошні час у Англіі прыкметна павялічыўся лік злачынстваў, прычым самага садзісцкага характару. Дастаткова ўспомніць нашумеўшы працэс Яна Брэйдзі і Майры Хіндлей, якія мучылі свае ахвяры (а імі былі пераважна дзеці) і запісалі іх крыкі на магнітафонную плёнку. Злачынствы гэтай пары рабіліся практычна па рэцэптах «хорараў». На патрабаванні англійскай грамадскасці спыніць масавы выпуск прадукцыі, якая разбэшчвае моладзь, улады прарэагавалі вельмі своеасабліва. Адзіным крокам, прынятым у адносінах «індустрыі жахаў», было... прысуджэнне каралеўскай прэміі за гэты год кінакампаніі «Хэмер», якая спецыялізуецца на выпуску «хорараў». Растлумачэнне гэтага, мякка кажучы, нечаканага кроку здзівіла сваёй прастатой — экспарт хэмераўскіх фільмаў за граніцу прынёс дзесяткі мільёнаў фунтаў англійскай казне і садзейнічаў скарачэнню гандлёвага дэфіцыту Англіі.

А. Д.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

■ Рэпчатую цыбулю галоўкамі варыце разам з іншай гароднінай, затым разатрыце відэльцам і пакладзіце назад у страву. Запраўляйце страву як звычайна, але ўжо без цыбулі.

■ Абіраючы бульбу, моркву і буракі, старайцеся здымаць нажом тонкую скурку.

■ Сельдэрэй моцна пахне і ўзбуджае апетыт. Выкарыстоўваючы карэнні, не забывайце пра зяленіва, зварыце, заліце соусам, падайце на стол як гарнір, можаце класці і ў саленні. Дробна нарэзанае зяленіва, якое вы пакладзеце ў гатовы суп, надасць яму прыемны смак. Калі зяленіва сельдэрэю дробна нарэзаць, высушыць у ценю і трымаць у шкляным слоіку са шчыльнай накрыўкай, яно вам будзе служыць добрай прыпраўкай усю зіму.

■ Ніколі не выкідвайце карэнні пятрушкі. Пакладзеныя ў суп, яны паляпшаюць яго смак і пах. Апрача таго, яны вельмі карысныя для здароўя.

■ Не выкідайце лімонных скурак. Лімон ідзе ў справу цалкам. Цэдру лімона можна дадаваць да тартоў, пячэння і інш.

■ На апельсінавых скурках настайваецца лікер, іх кладуць у тарты і пячэнне.

## Чвэрць стагоддзя назад




Перад захадам сонца былі мы на аэрадроме, адзетыя ў палёт: футравыя курткі, такія ж шапкі, ватаваныя нагавіцы, юхтавыя боты з халявамі. Перад стартам клалі мы на сябе ўсю экіпіроўку: парашут на плечы, ранец на грудзі, бралі запасную амуніцыю, магнітныя міны, запасны камплект сілкавання для радыёстанцыі, аўтамат, дыскі, пісталет ТТ, гранаты, кацялок, палявую торбу на карты і дакументы, перавязачны матэрыял і г.д. Вага экіпіроўкі каля пяцідзесяці кілаграмаў на чалавека. Выглядалі мы як наўючаныя вярблюды. Уласнымі сіламі не маглі ўвайсці ў самалёт, памагалі інструктары. Рэшта аснашчэння была ўпакавана ў багажныя мяшкі, дастасаваныя да скідвання на парашутах. У мяшках была запасная зброя, боепрыпады, узрыўчатка, ежа, бялізна, тапаркі, цывільная вопратка і г.д. Аднак найбольш неабходныя рэчы мы павінны былі ўзяць на свой карк. Трэба было лічыцца з рознымі непрадбачанымі акалічнасцямі, якія маглі наступіць па прызямленні далёка, тысячу кіламетраў за фронтам.

Нарэшце завылі прапелеры, пад напорам ветру пахілілася трава, задрыжаў самалёт, пакаціўся памалу на стартавую дарожку. На старце пілоты ў апошні раз праверылі рулі. І самалёт рушыў у паветра.

Я сядзеў на лаўцы каля сцяны і глядзеў у круглае акенца. Бачыў, як суправаджаючыя нас махалі рукамі, жадалі нам шчаслівай дарогі. Самалёт, набіраючы вышыню, зрабіў круг. У акенцы, аблітая праменнямі заходзячага сонца, з'явілася панарама Масквы.

Бывай, Масква! Дзякую табе за гасціннасць. Ці лёс дазволіць вярнуцца і ўбачыць цябе яшчэ раз? — падумаў я. Вярнуся, абавязкова вярнуся. Толькі разаб'ем ворага. Пакуль бывай, Вялікая Зямля!

Самалёт ляцеў проста на захад. Сонца зашло, зямля знікла. Хоць пад намі была чорная пропасць, у паветры было дастаткова відна. Пасля гадзіннага палёту ўнізе бліснуў пражэктар. Пасмам сваіх праменняў, бы вогненным карандашом, крэсліў на чорным купале неба лініі з усходу на захад. Паказваў нам напрамак палёту і адначасова папярэджваў: лінія фронту зараз жа.

Самалёт пачаў раптоўна набіраць вышыню. Разрэджанае паветра, колькі ў вушах, удар, быццам герметычна замкнуўся клапан і абсалютная цішыня. Я аглух.

Самалёт падняўся на максімальную вышыню, мы перасякалі лінію фронту. Са страхам і цікавасцю зноў глядзеў я ў акенца. Раптам убачыў я побач цёмны сілуэт знішчальніка. Крыху далей яшчэ два. Немцы! Пахаладзелі плечы. Зараз кінуцца на нас!

На шчасце гэта былі не немцы, але ключ савецкіх знішчальнікаў, якія суправаджалі нас праз лінію фронта.

Глянуў я ўніз. Як вокам ахапіць, на дзесяткі кіламетраў, цягнулася суцэльная сцяна пажараў. Зарывы ад іх фарбавалі неба крывавым, жудасным колерам. Унізе, пад намі на цёмнай зямлі сотні тысяч бліскаў: рвуцца міны і артылерыйскія снарады. Роямі мігцяць трасіруючыя кулі. Там ідзе бой, там гінуць людзі.

Раптам выстралілі ўгару дзесяткамі свецячыхся палос нямецкія пражэктары. У самалёце зрабілася відна. Маглі мы ўзаемна ўбачыць нашы кіслыя міны. За вокнамі блеснулі агні рвучыхся снарадаў. Міжвольна адхіліліся мы ад акна, скурчыліся, устрымалі дыханне. Хутчэй! Як ён памалу ляціць.

Не трывала гэта аднак доўга. Самалёт перасёк лінію фронту вельмі хутка. Толькі нам здавалася, што гэты пералёт цягнецца бясконца. Цяпер самалёт крута пайшоў уніз. Ціск выраўняўся, колькі ў вушах праходзілі, зноў пачуў я журчанне прапелераў. Урэшце самалёт выраўняў палёт і нізка над палямі і лясамі, ледзь не кранаючы дрэў, ляцеў у глыбіню акупаванай немцамі тэрыторыі Савецкага Саюза.

Нягледзячы на тое, што сядзелі мы на лаўках, абапертыя аб сцены, цяжар, які мелі на сабе і цёплая адзежа, неймаверна мучылі фізічна. Палёт выдаваўся доўгім. Стомленасць, а таксама выпітая ў часе развітання на аэрадроме пэўная колькасць каньяку, хілілі да сну. Дык неўзабаве заснуў я каменным сном. Не ведаю, колькі я спаў. Абудзіў мяне нейкі ўдар. Расплюшчыў я вочы, прыпомніў, дзе знаходжуся і адчуў, што самалёт коціцца па стартавай дарожцы.

— Што гэта! — крыкнуў я. Дзе мы?

— На аэрадроме, — адказаў Хмеляўцаў. — Але на якім, чорт ведае!

Самалёт спыніўся. Адсунуліся дзверы, у іх паказаўся адзін з пілотаў.

— Ну, прыляцелі, таварышы, — сказаў.

— Куды прыляцелі?

— Мы на аэрадроме ў Сярпухаве. Страшэнная імгла на Палессі не дазволіла выканаць заданне, не знашлі мы арыенціраў, зблыталі маршрут.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### А-Я-ЯЙ!

16 верасня г.г. у рэдакцыю прыйшоў ліст са Сталічнага прадпрыемства распаўсюджвання друку і кніжкі «Рух» — раённы аддзел Старэ Мяста. Друкуем поўнасцю:

**Warszawa, dnia 10.IX.1968 r.**
**Redakcja „NIWA"**
**Białystok**
**ul. Wesołowskiego 1**

**W dniu 9.IX.1968 r. wpłynęła do naszego przedsiębiorstwa reklamacja Ob. Stankiewicza Włodzimierza zam. Warszawa ul. Ordynacka 15 m. 3 w sprawie nieotrzymywania czasopisma NIWA od II półr. Ponieważ Redakcja Wasza wysyła egzemplarze do prenumeratorów bezpośrednio prosimy o zbadanie tej sprawy i wysłanie egzemplarzy zaległych i bieżących do prenumeratora.**

**Kierownik Oddziału**
**(H. Bączek)**

Неймаверна! Рэдакцыя наша высылае «Ніву» непасрэдна да сваіх падпісчыкаў. А мы (наіўныя!) былі пераконаны (і то аж 13 год!), што гэтую функцыю выконвае за нас «Рух».

На жаль, наша «даследванне» справы толькі ўмацавала нашы папярэднія перакананні. Аб чым і паведамляем шаноўнага кіраўніка Г. Бончэка. Здзіўляе толькі нас, што адказны працаўнік «Руху» не ведае асноўнай функцыі сваёй установы.

### НЕ СМЯШЫЦЕ ЛЮДЗЕЙ

**У павеце Беластоцкім**
**Стаіць вёска Каўпакі.**
**Ёсць там людзі - гаспадары,**
**А між імі — лайдакі.**

**Два мужчыны, як таполі,**
**Хоць ў аглоблі запрагай.**
**Кідаюць работу ў полі,**
**Бягуць у краму: — выпіць дай!**

**Часам іх па цэлым тыдні**
**Цяжка ў дома напаткаць**
**У чужых дамах начуюць**
**І пад плотам часам спяць.**

**Раніцою крыху «сіняй»**
**У стаканчык наліюць.**
**«Будзь здароў! за нашу долю!» —**
**Дзінатуру гэтак п'юць.**

**Я адно вам прапаную:**
**Трэба кінуць водку піць,**
**Ўзяцца крыху за работу,**
**Хопіць там людзей смяшыць.**

**Мікола Краўчук**
**Патока**

### ВЫПАЗЫЧАЛЬНІ

Вялікім поспехам карыстаюцца выпазычальні хатніх змеханізаваных прылад і настольных прыбораў у Чаромусе, Палічнай і Дашах. Асабліва сціральныя машыны часта пазычаюцца ў пунктах «Сучасная гаспадыня». На вяселле, хрысціны, або падчас гасціны з вялікай колькасцю людзей, не трэба пазычаць у суседзяў талерак, чарак, відэльцаў, ложак ці ложачак. Іх можна за невысокай аплатай атрымаць у выпазычальні ў пункце «Сучасная гаспадыня». (М.М.)

---

Праўдападобна, былі мы над Кіевам... Ледзь хапіла гаручага дабрацца сюды.

— Чаму не ляцелі ў Маскву?

— У Маскву паляцім раніцай. Ноччу над Масквой лятаць забаронена. Маскоўскія аэрадромы не прымаюць. Неўзабаве світанне. Праз дзве з паловай гадзіны будзем у Маскве.

Сказаўшы гэта, пілот засунуў дзверы. Пасыпалася лаянка. Я глянуў на гадзіннік. Ад старту мінула дзевяць гадзін.

Зноў адкрытая невядомая. Зноў чаканне. А жа ж усё гэта магло ўжо быць за намі.

Яшчэ больш раззлаваліся мы на наступны дзень, калі палкоўнік Васільеў сказаў нам, што польская група пад кіраўніцтвам інжынера Мечыслава Леша даляцела на месца і была скінута ў вызначаным раёне.

— Засранцы, а не пілоты, — нерваваўся Чаўрыкаў. — Дзеці ім няньчыць, а не на самалётах лятаць! У мазгах у іх імгла. Добра, што хоць не скінулі нас над Анкарай. Ад такіх ёлапаў усяго можна спадзявацца.

— Сціхні, малы, — адказаў яму Новікаў. — Узялі б цябе туркі ў гарэм еўнухам, глядзеў бы на прыгажуні і так дачакаўся б канца вайны.

— Ідзі к чорту са сваімі прыгажунямі!..

**Ян Анацік**

### БУДЗЕ МАСАРНЯ

У Кляшчэлях у пякарні ГС-у добры пячэцца хлеб. Добрая ў Кляшчэлях таксама прадукцыя газіраванай вады як аранжады і ліманаду.

У наступным годзе будзе пабудавана новая масарня, у якой знойдзецца памяшканне і на ўбой.

Бо ж да добрага хлеба патрэбная і добрая каўбаса. Праўда?

(xx)

### ЗАВОЧНІКІ

Маладыя дзяўчаты з Гайнаўкі Вера Скепка і Вольга Фірс завочна вучацца ў сельскагаспадарчых тэхнікумах. Вера вучыцца ў Ружаным Стоку і ўжо яна на пятым семестры. Волга — у завочным сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Седльцах. Яна ўжо на чацвёртым семестры.

Незадоўга будуць яны высокакваліфікаванымі аграномамі і сваёй працай прычыняцца да павелічэння ўраджаяў палёў і сенажацяў. (СМ)

### ЗНІШЧЭННЕ

Вёска Белкі, што ляжыць у паўночна-заходняй частцы Гайнаўскага павета, мае ўсе свае сенажаці меліраваныя і засеяны травамі. Можна сказаць, што ў Белках не клапоцяцца пра тое, каб на сенажацях на другі год павысіць яго ўраджай.

А вось якое здарэнне было ў Белках 15 верасня г.г. на сенажацях.

Тут з самай раніцы, а гэта была нядзеля, некаторыя гаспадары пачалі выганяць свае цяляты на пашу проста праз меліярацыйныя равы, нішчачы іх. Потым павыганялі ўсе свае каровы ды паслі ўвесь дзень. Каля абеда пачалі ўжо выганяць свае коні, якія таксама нішчылі сенажаць і меліярацыйныя равы. Аб тым, каб зрабіць масток, ніхто нават і не гаворыць. Жыхар вёскі Сакі Мікола Грыц, як карова не хоча перайсці праз роў, бярэ ланцуг на плячо і цягне сілаю.

Іван Лукашук, што жыве на калёніі ў Агародніках, свае цяляты і коні ганяе проста па той траве, што некалькі дзён таму пасеяна і проста праз равы.

Двух сялян з вёскі Агароднікі прозвішчам Маслоўскія таксама сваімі каровамі панішчылі равы на сенажаці. Рэчку Малынку тры гады таму назад рэгуляваную так знішчылі, што цяжка пазнаць. Вось якая бесталкоўшчына дзеецца на меліярацыйных равах.

**М. Лук'янюк**
Белкі




**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёміліся мы год таму. Ваня прыязджаў да нас часта з кінаперасоўкай. Пасля фільма часта праводзіў мяне дамоў, гаварыў з маімі бацькамі. Мне ён адразу спадабаўся, а потым я яго пакахала вельмі моцна, зрэшты, гэта маё першае каханне (маю 17 год).

Не так даўно Ваня абяцаў, што са мною ажэніцца, пачакае на мяне, пакуль я скончу 18 год. Мінула паўтара месяца, як перастаў Ваня прыязджаць у нашу вёску. Прыязджае іншы хлапец, Юрка. Я чакала пісьма, або яго прыезду. Аднак па Вані, як кажуць, след прастыў. Я не вытрымала, аднойчы падыйшла да Юркі і запытала, што з Ванем, мо ён ведае. Юрка загадкава ўсміхнуўся і сказаў, што Ваня ездзіць цяпер у іншыя вёскі, сам так захацеў. Мне было вельмі прыкра. Не ведаю, што цяпер рабіць. Ці верыць Юрку, ці шукаць Вані. Парай Сэрцайка.

Тоня
з С.

**Мілая Тоня!** Можаш верыць Юрку, або і не верыць, аднак шукаць Вані не раю. Першае каханне заўсёды выдаецца «моцным, цяжкім», аднак пасля нейкага часу пераканаешся, што гэта няпраўда. Ты яшчэ вельмі маладая і напэўна пакахаеш яшчэ не раз. Старайся забыць пра Ваню, прабывай больш з сябрамі і сяброўкамі, каб менш часу аставалася на роздум. І чакай, яшчэ ж часу маеш многа. Калі б Ваня сапраўды пакахаў цябе, напэўна даў бы аб сабе знаць. Хлопцам, якія сёння тут, заўтра там, не варта верыць, яны здрадлівыя, як асеннія вятры.

Жадаю ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

### КАЛЯРОВЫЯ



Спартыўны калектыў па валейболу «Каляровыя» быў заснаваны ў 1964 годзе ў Гайнаўцы настаўнікам Аляксандрам Кульваноўскім. Калектыў гэты налічвае 12 асоб. Сярэдні ўзрост «Каляровых» — 26 гадоў. «Каляровыя» ад пачатку існавання выступаюць на ваяводскіх спаборніцтвах і маюць шмат дасягненняў. У 1965 годзе заняў ён IV месца на кубак Падгаля ў Новым Таргу. «Каляровыя» прадстаўляюць спулдзельчасць ГС-аў і ПЗГС. Заваяваў ён кубак ВЗГС у Беластоку, а ў гэтым годзе заняў I месца ў турніры на кубак Белавежскай пушчы.

Трэнерам «Каляровых» з'яўляецца мгр Вітальд Лапінскі, які вядзе заняткі па фізкультуры ў адным з гайнаўскіх ліцэяў.

Тэкст і фота
Янка Цялушэцкі

### ГАТЭЛЬ ДЛЯ БУДАЎНІЧЫХ

З думкай аб «фахоўцах», з якімі Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва мела шмат клопатаў м. інш. таму, што не было дзе іх



закватараваць, пабудавана ў Гайнаўцы пры вуліцы Вызвалення гатэль для будаўнікоў. На першым паверсе знаходзіцца сталовая, клуб, бюро, а вышэй — пакоі для 80 чалавек.

Ц. Я.
Гайнаўка

### ЧАГО ЯНА ПЛАЧА?

На вулічнай лавачцы ў Луцэ (Гайнаўскі павет) неспакойна сядзіць старая жанчына і плача.

— А вы чаго гэта так на ўвесь голас? — запытаў я жанчыну. — Памёр хто ці што?

— Паночку, а я ўжо каб памерла, дык было б лягчэй. Пабілі мяне сын з нявесткай.

І Анна Байчук пачала расказваць, як гэта нядаўна нявестка Зіна ўбачыла, што закульгала кураня, і кінулася на яе (старую) з кулакамі і пакрыкваючы «гэта ты, сволач, перабіла кураняці нагу». Сын гэтай старушкі, Іван, не заступіўся за роднай маці, але яшчэ яе моцна стукнуў.

Іду да сына і пытаю, чаму так паступае з маці. Ён даказвае, што з ёю інакш нельга, такая яна дрэнная. Яго жонка, Зіна, як аса загудзела.

— Якая ваша справа, а што вам да гэтага, як я жыву з цёшчаю.

Па забудаваннях і панадворку відаць, што заможныя людзі тут жывуць. Але праўду кажучы, няма тут нармальнага жыцця. На ўсё хапіла сілы ў сына і нявесткі, каб адносіцца да заможных людзей вёскі. Не хапіла толькі сілы, каб стварыць згоду ў сваёй хаце.

Суседзі Байчукоў кажуць, што старая Анна баба сварлівая, але і маладая нявестка, Зіна, такая ж самая. Дзіўна толькі, што сын Іван, якога яна карміла сваімі грудзьмі і вырасціла яго, не толькі не стараецца, каб нешта зрабіць такое, каб маці абараніць ад нападаў Зіны. Але гэты сын, як даказвае Анна Байчук, сам часта падымае руку на маці.

Сын гэты ўжо дачакаўся дзяцей. Калісьці сам будзе стары, а дзеці ўжо будуць дарослыя. Чаму ж не падумаць аб тым, як гэта прыкра, калі роднае дзіця, якому столькі аддаецца сэрца, на старасць будзе цябе біць і здзекавацца над табой. Іван Байчук, падумайце аб гэтым і падумайце пра лёс сваёй маці. (мх)

## КІНО

**Беласток**

**БГКТ**
«Вуліца малодшага сына» — 6X..

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Dni grozy i śmiechu" (radz.), 8—9. „Zaduszki" (polski), 10—11. „Poznańskie słowiki" (polski), 12—13.

**Дубіны**
„Haiti" (USA), „Jowita" (polski), 12—13.

**Нараўка**
„BS.38-15" (NRD), „Julia, Anna, Genowefa" (polski), 9—13.

**Нарва**
„Na pomoc" (angl.), „Katastrofa" (polski), 9—13.

**Чыжы**
„Gdy miłość przemija" (jugosł.), „Stajnia na Salwatorze" (polski), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**
„10 małych Indian" (angl.), „Na frontach wojny domowej" (polski), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Męski piknik" (jugosł.), „Sami swoi" (polski), 9—13.

**Орля**
„Mętna woda" (węgierski), „Piąty jeździec Apokalipsy" (czeski), 9—13.

**Райск**
„Bariera" (polski), „W martwej pętli" (radz.), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Klub kawalerów" (polski), „Miłosne kłopoty" (polski), 8—12.

**Міхалова**
„Miłość jednej nocy" (radz.), 8—9. „Wielki skok" (franc.), 10—11. „Świat grozy i śmiechu" (polski), 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Miłość blondynki" (czeski), 8—9. „Przerwany lot" (polski), 10—11. „Olbrzym" (USA), 12—13.

**Шудзялава**
„Sobótki" (polski), „Między linami ringu" (USA), 9—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Rozwód z miłości" (węgierski), „Prywatna burza" (czeski), 9—13.

**Новы Двор**
„Jej siedem wieczorów" (czeski), „Mój przyjaciel delfin" (USA), 12—13.

**Ліпск**
„Nikt nie chciał umierać" (radz.), „Przed wojną" (jugosł.), 12—13.


## Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-181 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6297

# БАРАЦЬБА ЗА ПРЫПЫНАК

Прышлося мне аднойчы ехаць аўтобусам з Гайнаўкі ў Беласток. Паставіла я свой кошык на першым сядзэні і сама добра расселася. Толькі мінула Трысцянку і я здрымнулася. Паверце, даражэнькія, яшчэ ў сваім жыцці не мела такой прыгоды. Аўтобус раптам затармазіў, што я са сваім кошыкам нырнула лобам у падлогу, а яйкі з кошыка незвычайным спосабам шляснулі якойсь маладой жанчыне на калені. Маладзіца так спляміла спаднічку, што аж расплакалася. Я, знаеце, анямела са злосці і перапалоху, бо людзі гурнулі ўсе да дзвярэй, бы ўсёроўна самаход загарэўся. Калі выскачыла я з аўтобуса, убачыла натоўп людзей, а на самым перадзе кабеціну ў доўгім парцяку з чырвоным палатном на ражне грубіны з аглоблю. Забылася я пра свой кошык і разам з людзьмі пабегла. Адны кажуць, што пэўна была якаясь катастрофа і з кагось толькі крыві налілося, што абрусак зафарбавала. Другія кажуць: пэўна якоесь дзяржаўнае свята і людзі йдуць з флагам, а нараўскі Дзмітрук падумаў, што шаша заламалася, бо яе бракаробы рабілі: таму людзі затрымоўваюць аўтобус, каб папярэдзіць перад выпадкам.

З натоўпу вырвалася бабка Дзямяніха, працерла спацелы лоб і давай гаварыць са слязьмі ў вачах: — падумайце толькі, год быў прыпынак ПКС-у ў Ахрэмавічах і яны мелі выгады, а цяпер як перанеслі да нас у Альшанку, то яны і шумяць.

— Мы аднак не даруем! — далучылася другая кабеціна. — Не хочуць аўтобусы затрымоўвацца ў нас, то мы іх пры дапамозе чырвонага флагу затрымоўваем. Будзем затрымоўваць, пакуль яны прывыкнуць і самі пачнуць затрымоўвацца.

Бабцы Дзямянісе хацелася яшчэ штосьці сказаць і то напэўна цікавае, але штось так у душы ныла, што пакінула натоўп і пабегла дахаты. Аб тым, што пакінула агонь у печы, успомніла толькі тады, як убачыла дым, што клубамі валіў з вокан. Спляснула бабка рукамі і загаласіла. Добра, што хуценька прыбеглі суседзі і загасілі агонь. Затраты, казаў ахрэмаўскі Астап, не былі вялікія, бо згарэў толькі ложак, некалькі сукенак, блузак і спадніц. Можа хто з вас, чытачы, думае, што гэта за затраты, але як хто праязджае шашой побач Альшанкі, то ва ўсіх агародах не спаткае шкодных птушак, бо на кожным загоне і яблыні недапалены саян, або недагарэлая сукенка бабкі Дзямяніхі. А прыпынак астаўся ў Ахрэмавічах. Дарэмныя былі дэманстрацыі жыхараў Альшанкі.

Са злосці большасць жыхараў Альшанкі не ходзіць на прыпынак у Ахрэмавічы, але ў Жаўкова, а нават у Заблудаў. Так зненавідзелі ахрэмаўцаў.

**Суседка Міхаліна**




— У нас мала персаналу!..

# НІЎКА



### АПРАЎДАЎСЯ

Ваўка-зладзюгу сам паклікаў леў:
— Гавораць, ты авечку з'еў?
— Ну, гэта ўжо сапраўдная мана —
Я не авечку з'еў, а барана.

### БУДЗЕ ВІДАЦЬ

— Звары, дачушка, крупнік, а колькі солі сыпаць — будзе відаць.

— Дачка сыпала, сыпала і, нарэшце, сказала:

— Вось цяпер відаць — поўны гаршчок.

### АМАРАЛЬНЫ ТЫП

— Вясною ён абяцаў своечасова заараць зямлю, пасеяць і сабраць высокі ўраджай. І ніводнага з гэтых абяцанняў не выканаў.

— І што вы з ім зрабілі?

— Далі вымову за тое, што развёўся з жонкаю.

### НЕЗАДАВОЛЕНЫ

Малы хлапчук, якога бацька часта ў хаце дзягай сцёбаў, падыходзіць да прыехаўшага ў вёску доктара і пытае:

— Пане доктар! Ці вы ведаеце таго бусла, што сюды дзяцей носіць?

— Ведаю. А што?

— Мо скажаце яму, каб мяне адгэтуль назад забраў, бо тут абы за што толькі і б'юць!..

### СПАГАДЛІВЫ ДЫРЭКТАР

— Таварыш Пятро, вы лепей зайдзіце сёння да мяне дахаты і тады мы зможам з вамі пагутарыць.

— Але ж я не ведаю, дзе вы жывеце.

— Усё роўна прыходзьце.

# ДУМЫ ЯСЕВЫ і АПАЛОНІКА

**Усе людзі глядзяць перад сябе, але кожны іншае бачыць.**

*

**Трэба памятаць, што сённяшні дзень заўтра будзе днём учарашнім.**

*

Словы часта бываюць падобныя да лятучых іскраў.

*

Чалавек, які надта многа думае аб сабе, забывае аб людзях.

*

Людзі — гэта вялікая пушча, у якой лёгка можна заблудзіцца.

### ЯК ПІСАЦЬ

Адзін юнак спытаў у Моцарта, як пісаць сімфонію. Моцарт сказаў.

— Вы яшчэ вельмі малады. Чаму б вам не пачаць з балад?

Юнак запярэчыў:

— Але ж вы пачалі пісаць сімфоніі, калі вам было ўсяго дзесяць год?

— Так, — адказаў Моцарт, — але ж я нікога не пытаў, як іх трэба пісаць.

### ТАДЫ ПАБАЧЫШ...

— Што ты будзеш, бедненькая, рабіць, калі я памру? — пытаўся мужык у свае маладой жонкі. — Ты ж такая маладая...

— А вось ты памры, тады і пабачыш.

### ТОЛЬКІ ДУМАЎ

— Сёння я павінен здаваць экзамен і нічога не ведаю.

— Добра, але пра што ж ты думаў учора?

— А ўчора я думаў пра тое, што павінен здаваць экзамен і нічога не ведаю.

### КАЛІ ПАКІНУЛІ РАЙ

Раз у малой дзяўчынкі спыталі, ці доўга Адам з Еваю жылі ў раі?

— Пакуль яблыкі не паспелі, — кажа яна.



— Кахае... не кахае...



— Кахае!

### НЕ ЗГОДНЫ

— Эх, каб кожнаму плацілі столькі, колькі ён зарабляе!

— Ну, не! На такую мізэрную плату я ніколі не згадзіўся б.

# *Jesienny Pan*

**Słowa: Wojciech Młynarski**
**Muzyka: Roman Orłow**

**Choć nie wiem, kto to jest**
**i nie wiem, skąd go znam,**
**czasem spotyka mnie**
**jesienny starszy pan.**

**Parasol wielki ma**
**i zmartwień trochę też,**
**przez pusty idzie park**
**w czerwony liści deszcz.**

**Lecz gdy ostatni liść**
**ze smutnych spadnie drzew,**
**on razem z białą mgłą**
**rozpływa się.**

**Gdy park pożółknie znów,**
**powróci znowu tam,**
**jesieni szukać barw,**
**jesienny śmieszny pan.**

**A wtedy spotkam go**
**i pójdę z nim przez park,**
**on będzie blisko tak**
**mych rąk, mych warg.**

**Gdy świat pożółknie znów**
**i biała wzejdzie mgła,**
**będziemy razem szli**
**jesienny pan i ja...**



# КУРЁЗЫ

### Няма слоў

Парыжская машыністка Ніколь Юбер стала чэмпіёнкай свету, друкуючы з хуткасцю 260 слоў у хвіліну. Нядаўна яна давяла рэкорд да 280 слоў. «Я магла б друкаваць і з хуткасцю 300 слоў за хвіліну, але ніхто не ўмее так хутка дыктаваць», — заявіла Ніколь.

### Дасо XIV



У Францыі з'явіўся новы Кароль-сонца, які страшна зайздросціць лаўрам Людовіка Чатырнаццатага. У прыватнасці, яму доўга не даваў спакою славуты Трыаном, палац, пабудаваны непадалёк ад Парыжа Людовікам Чатырнаццатым для сваёй фаварыткі — маркізы Пампадур.

Сямідзесяціпяцігадовы Марсель Дасо, найбагацейшы чалавек у Францыі, «кароль» французскай авіяцыі, цяпер урэшце ажыццявіў сваю мару зраўняцца з каралём. Ён пабудаваў паблізу Памбуйе, пад Парыжам, свой уласны Трыаном (так ён і названы) — палац з сарака васьмю калонамі, мармуровымі сходамі і высокай сцяной, у дакладнасці паўтараючай «сховішча» караля і маркізы. Ходзяць чуткі, што кароль авіяцыі цяпер дакладна вывучае жыццёапісанне караля Людовіка з мэтай далейшага пераняцця вопыту. А чаму б і не? Капіталаў у мсье Дасо, бадай, не менш, чым было ў свой час у яго ідэала.




**Чым менш у чалавека добрых якасцей, тым больш іх прыпісвае сабе.**